Іскры Ільіча
ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ МАЛОДШАГА УЗРОСТУ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСВЕТЫ МАЙ 1934 № 5

# ЗА СОВЕЦКУЮ АЎСТРЫЮ

Гэта было ў лютым месяцы. Рабочыя Аўстрыі са зброяй у руках выступілі супроць фашыстаў. На вуліцах Вены і другіх гарадоў былі пабудаваны барыкады.

Некалькі дзён, без сну, без яды, адважна змагаліся рабочыя за сваю ўладу, за совецкую Аўстрыю.

Тысячы дзяцей дапамагалі сваім бацькам у гэтым змаганні. Яны падносілі патроны, будавалі барыкады, былі добрымі разведчыкамі. У адным рабочым раёне 12-гадовы хлопчык выбег з рэвольверам у руцэ насустрач фашыстам і пачаў страляць у іх. Фашысты зверскі расправіліся над гэтым хлопчыкам—юным героем.



Фашысты выставілі супроць рабочых усе свае ўзброеныя сілы. У ход былі пушчаны цяжкія гарматы, бранявікі, самалёты. Усе рабочыя кварталы Вены і другіх гарадоў фашысты разграмілі снарадамі. Адны руіны засталіся на месцы многіх дамоў.

Гераічна змагаліся рабочыя і іх дзеці. Але яны былі разбіты. Многія несвядомыя рабочыя знаходзіліся ў партыі соцыял-дэмакратаў. Правадыры гэтай партыі даўно ужо сталі лакеямі буржуазіі. Яны і на гэты раз пастараліся зрабіць усё, каб перамаглі фашысты.

Фашысты бязлітасна, пазверску расправляліся над героямі паўстання.

Нядаўна ў Маскву прыехала 311 рабочых—удзельнікаў паўстання. Ім удалося вырвацца з крывавых лап фашыстаў. Сярод іх знаходзіцца 5 дзяцей.

Але на гэтым барацьба за совецкую Аўстрыю не спынілася.

Рабочыя—удзельнікі паўстання, бышыя соцыял-дэмакраты—зразумелі зараз, што толькі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі яны перамогуць усіх сваіх ворагаў.

# Надзя Асташка

**23 мая споўнілася 10 год з дня прыняцця піонерскай арганізацыяй высокага і ганаровага імя правадыра працоўных усяго свету — Владзіміра Ільіча Леніна.**

**У радах піонерскай арганізацыі растуць мільёны юных ленінцаў. Надзя Асташка—быўшая піонерка—зараз з'яўляецца комсамолкай, лепшай з лепшых работніц на сваёй фабрыцы.**

**Кожны акцябронак і піонер павінен старацца стаць у будучым такім, як Надзя Асташка, як тысячы другіх выдатных работнікаў — героеў соцыялістычнага будаўніцтва.**



Неахвотна ўспамінае свае дзіцячыя гады Надзя Асташка. Зусім малою была яна, як памерлі бацькі. Шасцёра дзяцей засталося сіротамі. Па белым свеце разышліся яны здабываць сабе кавалак хлеба. Надзя засталася за нянькаю ў аднаго гаспадара.

Як хацеў, так здзекваўся гаспадар: і дзіця даглядай і другую работу рабі. Пашкадаваць не было каму, паскардзіцца — таксама не было каму. Ад аднаго гаспадара Надзя трапляла да другога, але і той быў не лепшы: за нікчэмную плату кожны вымагаў непасільнай работы.

У 1925 годзе 12-гадовая Надзя трапіла ў Віцебскую дзіцячую комуну. Ад гэтага часу для Надзі пачынаецца новае жыццё. У комуне адразу-ж паслалі яе ў школу, а праз некаторы час Надзя становіцца піонеркай. Была важатай звяна.

1929 год застае Надзю ў фабрычна-заводскай школе швейнікаў. Шчыра вучыцца Надзя і тут. Лепшай ударніцай канчае яна школу. За добрую вучобу Надзю прэміравалі.

Скончыўшы школу, Надзя паступіла на швейную фабрыку „Сцяг індустрыялізацыі". Тут для яе адкрылася шырокае поле работы. Маладзёжная брыгада, у якую паслалі Надзю, адставала, недавыконвала свой план. Надзя становіцца адным з першых арганізатараў прыкладнай работы: яна разам з другімі змагаецца з недахопамі, з недысцыплінаванасцю. Тым работніцам, што адставалі, брыгада калектыўна дапамагала, падцягвала іх за сабой.

Неўзабаве брыгада выйшла ў першыя рады і ўвесь час змагаецца за тое, каб быць па першым месцы, працаваць лепш, даваць другім прыклад.

Летась у дзень святкавання 15-й гадавіны Ўсесаюзнага ленінскага комсамола, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт СССР узнагародзіў ордэнам Леніна 34-х комсамольцаў-ударнікаў. Сярод іх — Надзя Асташка, лепшая ўдарніца-комсамолка Віцебскай швейнай фабрыкі „Сцяг Індустрыялізацыі".

Такі шлях Надзі. З былой няньк, потым вучаніцы-піонеркі Надзя становіцца кваліфікаванай работніцай. Яна паўдарнаму працуе і атрымлівае за гэта вышэйшую ўзнагароду—ордэн Леніна.

З Надзі Асташкі, лепшай ударніцы-комсамолкі, бяруць прыклад многія работніцы, і рабочыя. А. П.

# АПАВЯДАННЕ ПРА ГЕРОЕЎ

## 1. Зноў у дарогу

Отто Юльевічу Шмідту, начальніку галоўнага кіраўніцтва Паўночнага шляху, прынеслі з Соўнаркома сіні пакет. Ён асцярожна разарваў пакет і, прачытаўшы невялічкую паперку, з радаснай усмешкаю сказаў:

— Ідзем зноў на Поўнач!

З Соўнаркома Отто Юльевічу паведамлялі, што ён прызначаецца начальнікам Паўночнай экспедыцыі*). З вялікаю радасцю прыняў Отто Юльевіч даручэнне совецкага ўрада і адразу-ж узяўся за работу. Перш-на-перш трэба было падабраць добрага, спрактыкаванага капітана карабля, падабраць добрую, вынослівую каманду.



ОТТО ЮЛЬЕВІЧ ШМІДТ.

Гэтаю справаю Отто Юльевіч і заняўся. Капітанам ён запрасіў таварыша Вароніна, які ўжо некалькі разоў быў у Паўночных экспедыцыях. Той з прыемнасцю згадзіўся.

І вось улетку 1933 года на новым караблі-ледаколе „Чэлюскін" экспедыцыя выехала ў дарогу. Пяць суровых паўночных марэй—Барэнцава, Карскае, Усходня-Сібірскае, мора Лапцевых і Чукоцкае — трэба было прайсці „Чэлюскіну".

## 2. У льдах халоднай Поўначы

Доўгі час ледзяная Поўнач была загадкай для людзей. Нарэшце знайшліся смельчакі заглянуць у нязведаныя прасторы. Гэта справа была надзвычайнай рызыкай, бо такіх вялікіх караблёў-ледаколаў, якія ёсць цяпер, тады не было. Ды і дапамогі на доследы буржуазныя краіны не давалі; калі-ж і давалі часам, дык зусім нікчэмную. Часта гэтыя даследчыкі гінулі ў ледзяной пустыні, але справу іх не пакідалі другія.

І толькі адважныя, бесстрашныя большэвікі па-сапраўднаму ўзяліся за вывучэнне і асваенне далёкай Поўначы. На многіх астравах ёсць ужо совецкія радыёстанцыі. Там жывуць нашы вучоныя.

Кожны год карабель адвозіць на астравы новых людзей — змену зімоўшчыкам. Адны людзі там доўга жыць не могуць. „Чэлюскін" таксама вёз змену зімоўшчыкам на востраў Врангеля і будаўнічы матар'ял для паляўнічых.

Пануры выгляд маюць лёдавыя паўночныя моры. Куды ні глянеш—белыя горы, белыя палі лёду. Толькі сям-там паміж вялізарных крыг блішчыць цёмная шчыліна вады. Па гэтых „шчылінах" прабіраецца ледакол „Чэлюскін". Сустрэнецца малая крыга—разаб'е яе, падбярэ пад сябе і плыве далей. Загародзіць дарогу вялікая—абыйдзе яе.

Так, з вялікімі труднасцямі, прабіваўся „Чэлюскін" праз лёдавыя палі. І вось нарэшце такі падышоў ён зусім блізка да вострава Врангеля. Але з Заходняга боку востраў быў абкружаны крыгамі — падплысці нельга. Тады вылецелі з карабля на самалёце ў разведку і даведаліся, што з другога боку вострава лёду няма.

---

*) Экспедыцыя—група людзей, якая праводзіць доследы.

Пайшлі ў адход. Але і тут здарылася тое, на што не спадзяваліся—карабель абкружылі крыгі і пагналі цячэннем зусім у другі бок — у Берынгаву пратоку, к Тіхаму акіяну.

Як не змагаліся, захопленыя крыгамі ў палон чэлюскінцы, але выбіцца не змаглі: на гэты раз крыгі аказаліся ўпартымі і непаслушнымі.



Ледакол „Чэлюскін“

Каля 5 кілометраў заставалася праплысці „Чэлюскіну“ разам з крыгамі, каб выбрацца на волю, у прасторныя чыстыя воды Тіхага акіяна. Але раптам пачалі дзмуць вялікія вятры. Яны нагналі з акіяна многа вады ў Берынгаву пратоку, і крыгі з караблём паплылі назад, на Поўнач.



Алла Буйко—трохгадовая дачка начальніка вострава Врангеля. Яна разам з маткай была на „Чэлюскіне“. Выратаваў яе лётчык Ляпідзеўскі.

## 3. На лёдзе

Выбрацца з лёдавых крыг „Чэлюскін“ не можа. Прыходзіцца чакаць, калі яны самі вызваляць.

Так больш за 3 месяцы плаваў палонны „Чэлюскін“.

Але 13 лютага пасля абеду інструманты паказалі, што крыгі заварушыліся. Данёсся страшэнны шум — пачалося самае жахлівае ў моры: адна крыга з трэскам папаўзла на другую, а тая на трэцюю...

На караблі трывога... Усе людзі напагатове і чакаюць толькі загада капітана.

— Трэба ратавацца, — выпрашае таварыш Воронін і дае спакойны загад:—Усе на выгрузку!

Закіпела ўпартая работа. Працавалі дружна, але без ніякага страху. А навакол бушуе мяцеліца ды пячэ 30 градусны мароз.

За 2 гадзіны выгрузілі на лёд запас прадуктаў на 2 месяцы, выгрузілі пасцелі, цёплую вопратку, усе карабельныя прылады, дакументы, навуковыя апараты, дзеннікі, чарцяжы „Чэлюскіна“, шлюпкі (лодкі) і самалёт, што быў на караблі. Усёю

работаю кіравалі Отто Юльевіч Шмідт і капітан Варонін.

І толькі тады, калі крыга пачала падбіраць пад сябе пярэднюю частку ледакола — нос (карабель быў даўжынёю $94^{1}/_{2}$ метры, шырынёю $16^{1}/_{2}$ метраў і вышынёю $6^{1}/_{2}$ метраў), капітан коратка загадаў:

— Усе на лёд!

Выйшлі ўсе на лёд, толькі адзін комсамолец Магілевіч выпадкова загінуў разам з караблём. Агледзеліся чэлюскінцы кругом—пустка. Шкода стала цёплых утульных кают (пакойчыкаў), але нічога не зробіш. Не да твару сумаваць большэвікам—зараз-жа приступілі да пабудовы лагера з палатак.

Асталяваліся як след і перадалі па радыё прыбярэжным радыёстанцыям вестку аб гібелі карабля.

У Маскве адразу-ж, як толькі было атрымана паведамленне пра здарэнне з ледаколам, совецкі ўрад стварыў камісію па выратаванню чэлюскінцаў. Старшынёю гэтай камісіі быў вызначан намеснік старшыні Соўнаркома СССР таварыш Куйбышэў.



А. Ляпідзеўскі.



Н. Каманін.



В. Молакаў.

## 4. Героі Совецкага Саюза

Штодня перадавалі чэлюскінцы на бераг весткі аб сваім здароўі, аб надвор'і. Бадзёрыя, упэўненыя, чэлюскінцы ведалі, што на далёкай Поўначы яны не адны: аб іх дбае совецкі ўрад, за іхным жыццём сочыць уся совецкая грамадскасць, увесь свет. І з Масквы таксама штодня перадавалі ў лагер аб тым, што робіцца для іх выратавання.

Самалёты, пад кіраўніцтвам найлепшых лётчыкаў, аэрасані, параходы, выдатны ледакол „Красін" — усё было накіравана на Поўнач. Не змогуць даляцець самалёты, дык дойдзе ледакол „Красін".

— Чэлюскінцы будуць выратаваны сваімі сіламі — заявіў совецкі ўрад.

Цяжка змагацца з паўночнаю прыродаю. Усходзіцца пурга (мяцеліца) — свету не відаць: нельга ляцець самалёту ў лагер! Здаецца вось ужо добрае надвор'е — падымецца самалёт угору, праляціць трохі, а гэтым часам густы туман засцеле ўсё навокал і самалёт варочаецца назад.

Нарэшце 5 сакавіка выдалася добрае надвор'е. Лётчык Ляпідзеўскі, які знаходзіўся найбліжэй да лагера, перад адлётам у гэты дзень сказаў:

— Ну, сягоння вярнуся з чэлюскінцамі.

І сапраўды на гэты раз Ляпідзеўскі апусціўся ў лагеры Шмідта. Ён узяў адтуль 10 жанчын і двое дзяцей і прывёз на бераг у пасёлак Уэлен.

У лагеры засталося яшчэ 89 чалавек. Але назаўтра пагода змянілася—самалёт больш не вылецеў.

І толькі 7 красавіка лётчык Каманін і Молакаў зусім з другога боку, перамогшы вялікія перашкоды, даляцелі да лагера Шмідта і ўзялі 5 чэлюскінцаў.

К гэтаму часу прыляцелі на дапамогу лётчыкі Даронін і Вадап'янаў. Яны ляцелі з Хабараўска праз высокія горы ахутаныя туманамі. Праз гэтыя горы ніхто яшчэ не пералятаў. Яны зрабілі каля 5 тыс. кілометраў.

І нарэшце, крыху пазней, прыляцелі Леванеўскі, і Слепнёў.

На працягу 6 дзён усе чэлюскінцы былі выратаваны. 13 красавіка вылецелі з лагера астатнія 6 чалавек, пакінуўшы на крызе чырвоны сцяг. Начальніка экспедыцыі Отто Юльевіча Шмідта, які захварэў у лагеры, адразу-ж на самалёце павезлі ў Амерыку лячыцца.

Уся наша краіна, увесь свет віталі савецкіх героеў-лётчыкаў. Нават нашы ворагі вымушаны былі прызнаць, што савецкія самалёты адны з лепшых, а лётчыкі — самыя адважныя людзі ў свеце.

За адважную геройскую работу лётчыкам Ляпідзеўскаму, Леванеўскаму, Молакаву, Каманіну, Слепнёву, Вадап'янаву і Дароніну ўрад прысвоіў званне Героя Савецкага Саюза. Яны першыя ў Саюзе атрымалі такую высокую ўзнагароду. Апрача таго ўсе гэтыя лётчыкі ўзнагароджаны ордэнам Леніна.

А ўсе чэлюскінцы за выключную мужнасць і дысцыплінаванасць, праяўленую пры гібелі „Чэлюскіна“, узнагароджаны ордэнам Чырвонай Звязды.



І. Даронін.



М. Вадап'янаў.



М. Слепнёў.



С. Леванеўскі.

# МЕДЗВЯНЯТЫ

Апавяданне і малюнкі
Е. ЧАРУШЫНА



Ёсць такая вёска, называецца Малыя Сосны. Малыя не таму, што сосны ў лесе невялікія, а таму, што бліжэйшая ад гэтай вёска завецца Вялікія Сосны. Значыць, каб не змешваць з той, другой.

У самым густым вялікім лесе размясціліся гэтыя Малыя Сосны.

Вось у гэтым лесе і забілі зімой мядзведзіцу. У бярлозе забілі. А мядзведзіца нядаўна сплючы двух медзвянят радзіла. Мядзведзіцы—яны ў бярлозе сонныя шчэняцца.

Медзвянят абодвых паляўнічыя ў шапку палажылі—абое змясціліся ў шапцы. Маленькія яны былі, ледзь-ледзь на свет глядзелі.

Прынеслі іх зімой у вёску Малыя Сосны да Параскі Іванаўны ў хату. Яе муж якраз і забіў мядзведзіцу. Прынеслі медзвянят у хату, кінулі пад лаву на аўчыну, на стары кажух. Там і сталі яны жыць.

Параска Іванаўна сама ім соскі зрабіла. Узяла дзве бутэлькі, цёплага малачка наліла—вось і соскі. Ляжаць медзвяняты на кажусе, з бутэлькамі. Спяць, ссуць малако, чмокаюць і растуць патроху.



Спачатку з кажуха не злазілі, а потым і па хаце сталі поўзаць.

Растуць медзвяняты нішто сабе. Толькі аднаго разу медзвяня адно чуць не памерла з перапалоху. А было так. Курэй прынеслі ў хату. Мароз быў на дварэ такі, што вароны наляту замярзалі,—вось курэй і прынеслі, каб ад холаду выратаваць. Адно медзвяня выкацілася з-пад лавы на іх паглядзець. Тут певень на яго і накінуўся. І давай біць. Ды як біў! І крыллямі махаў, і дзюбай кляваў,—проста азвярэў певень.

Медзвяня беднае толькі раве, — не ведае, што яму і рабіць, як бараніцца, лапамі як чалавек вочы закрывае і раве.

Ледзве яго адратавалі. Ледзве ад пеўня адабралі. На рукі паднялі, а певень угору скача, як сабака які, — яшчэ разок дзеўбануць хоча.

Дні са тры пасля таго не сыходзіла з кажуха медзвянятка. Думалі, што канец яму будзе. Але нічога, жывым асталося.

Да вясны падраслі, падужэлі медзвяняты. А улетку ўжо

куды большыя за кошку сталі — з маленькага сабаку.

Такія дурасліўцы выраслі— то гаршок са стала абернуць, то вілкі з качарэшніка схаваюць, то з падушкі пер'е выпусцяць. І пад нагамі ўсё круцяцца, перашкаджаюць гаспадыні Парасцы Іванаўне. А на вуліцу пойдуць — суседзям бяды нямала наробяць.



Бядуе гаспадыня. „І калі іх ужо ад мяне ў горад прададуць?“.

А ў горад з Малых Сосен не так то лёгка выбрацца. Так і жывуць медзвяняты ў вёсцы.

Прышоў я аднаго разу ў Малыя Сосны на паляванне. Сказалі мне, што мядзвянята тут ёсць. Я і пайшоў іх паглядзець.

Пытаюся ў гаспадыні:

— Дзе твае медзвяняты?

— Ды на волі,—кажа,—забаўляюцца.

Выходжу на двор, гляджу, — няма нікога. Раптам — хлоп. Перад самым маім носам цагліна праляцела, з страхі звалілася. Адскочыўся я, глянуў на страху. А там медзвяняты сядзяць. Работай заняты: комін па цаглінцы разбіраюць. Адарвуць цаглінку і спусцяць яе па страсе. Цаглінка паўзе ўніз, шуршыць. Медзвяняты і слухаюць сабе. Падабаецца ім гэта, як шуршыць. Яны набок галаву нахіляюць і слухаюць. Адно медзвяня нават кончык языка высунула ад такога здавальнення.

Прагналі іх са страхі, нашлёпала медзвянят гаспадыня.

А ўвечары прыйшлі суседзі і таксама скардзяцца: медзвяняты на трох хатах разбурылі коміны. Ды гэта не ўсё,—у сярэдзіну комінаў цаглін яшчэ панакідалі. Сталі гаспадыні ў печы паліць, а дым не ў комін ідзе, а ў хату валіць назад.

Упрасіла мяне Параска Іванаўна купіць медзвянят. Я згадзіўся і забраў іх у горад. Спачатку на вяровачцы вёў, а як у лес прывёў, зняў вяровачку — самі пайшлі. Баяцца астацца. Лесу баяцца. Лес ім, як чужы, страшны.

Гэтак двое сутак мы з імі ішлі. Дайшлі да горада, тут я іх зноў на вяровачцы павёў.

Сабак колькі назбягалася, дзяцей, ды і дарослыя таксама спыняюцца—глядзяць.

Прадаў я маіх маласосенскіх хуліганаў у заалагічны сад, адтуль іх проста ў Германію адправілі. Памянялі на зебру палосатую—афрыканскага каня.



ЯКУБ КОЛАС

# МІХАСЁВЫ ПРЫГОДЫ

Малюнкі В. Тіхановіча

(*ПРАЦЯГ*).

Звярнулі з дарогі ў барок,
Агледзелі першы грудок—
Пуста, адны мухаморы.
Вось горка. На горцы пясок.
Яловец. Сям-там верасок,
Сям-там равочкі-разоры.
І чуецца радасны крык—
Гукае Міхась: „баравік"!
І сам прысядае на дол
Ды вочкамі водзіць вакол.
Аж зірк—між калючак
Другі капялюшык!
　　І што за асоба!
　　Краса і аздоба!



Не чорны—хутчэй сіваваты.
　　Дзябёлы, таўсматы.
　　На ёмкім камлі
　　Сядзіць пры зямлі,
　　Як нейкі асэсар
　　Ці важны прафесар.
Ну, проста не зводзіў-бы воч.
Аж глянуў—і трэці наўзбоч!
І радасць Міхася забрала,
Міхасева сэрца ўзыграла.
Ён радасны справіў галас:
— Сюды ідзі, тата!
Грыбоў тут багата—
Баравіковы калгас!—
Акрыяў яго дух,
Забраў яго рух.
Ён тупае, [illegible]дзіць,
Вачэй з іх не зводзіць,
　　Разгортвае шышкі.
　　— Ну, што-ж?
Ідзіце, брацішкі,
　　У кош!—
Ды грыбнік Міхась наш не просты:
Спрыяе ён грыбнаму росту—
З карэнчыкам не вырывае,
　　А ножыкам—чык!
Каб вырас другі баравік:
Ад кораня нітка адходзіць жывая.
　　А з нітачак гэтых,
　　Што йдуць ад карэння,
　　Новае выйдзе
　　Грыбоў пакаленне.
　　Вось у чым штука—
　　Грыбная навука.

Хадзілі па горцы туды і сюды,
Хавалі на выраст грыбок малады:
Ростам з арэх—
Браць такіх грэх...
Багатая ім тут спажыва была:
Грыбоў каля сотні ім горка дала.
Ды што за грыбочкі на горачцы той!
І горку назвалі яны „Залатой".
Другія мясцінкі пайшлі аглядаць,

Дзе водзіцца гэта г
Груды, пералескі, ус
Дарожкі і сцежкі па
Снуюць, аглядаюць
Уздушынку дола, га
І бачыць Міхаська—
Ён весь захадзіўся,
Падбег, прысядае ді
Аж глянуў—паганка
Бадай цябе чорт!
Такую зрабіла абра
Узлаваўся Міхась:
З коранем вырваў
Ды аб пень яе лясь
А сам азірнуўся, ма
Ці бачыў хто ў лес
А следам за гэтым
Хоць смешная трох
Вось грудок-
Пажарок—
Лес гарэў калісці.
Бачыць—лом,
Моху ком
І сухое лісце.
Можа тут
Шалапут
Баравік стаіўся?
Ды не вер,
Брат, цяпер:
Раз ужо змыліўся!
Ён зірнуў,
Капарнуў
І назад адскочыў.
Там залёг
У бярлог
Калючы клубочак!
Не сцярпеў,
Паглядзеў,
Што-ж гэта быць
І пазнаў,
Загукаў:
— Тата, а вось во
Вожык звіўся ў кл
І маўчок—
І не чхне хітруга.
Дай-жа глянуць, д
Галубок,
Што ты за зваруг
Пакажыся ты нам
Сам на сам
Без сваіх іглятак.
Раскапалі, а там,
Трое важанятак!
І калюшачак пук

Ї ні ног, ні шыі.
А бадай іх кадук—
Смешныя-ж якія!
Пацеўшыся з іх наш хлапец—
Ну, і стварэнні на свеце!
Закрыў ён курганік-капец
Ї сказаў ім: „жывеце!“
Агледзеўшы ўсе хвайнякі,
Грыбныя мясціны,
Груды, раўчавіны,
Ідуць у барок грыбнікі.
Цікавае месца—барок.
Таўшчэзныя хвоі
Стаяць у спакоі
Ї ўвесь аздабляюць лясок.
Навокала вольны прастор,
Ї тут іх сямейка,
Сасняк-самасейка,
Як шчотачка поверсе гор.
Ї любіць Міхаська барок
Ї хвою старую,
Што хлопца чаруе.
Ї здзіўлены пестуе зрок.
А ладная хвоя!
Ну, варта засняць.
Не здолеюць трое
Стан-камель абняць.
Кара-чарапіца,
Галіны—шатры.
Рунее ігліца,
Як жыта ўгары.
На ёй спачывае
Бліскучы прамень—
Усмешка жывая,
Што дарыць ёй дзень.
У кроплях расінак,
Як сонца зірне,
Мільёны іскрынак
Гараць на сасне.
Калі-ж замірае
Падвечар абшар,
На хвоі іграе
Багрысты пажар.
Ї ўсе яе шаты
Ї навісь галін
Ї комель шурпаты—
Рысунак адзін.
Пазірае Міхаська на хвою
На загнутыя ў кольца сукі—
У прыроды свае мастакі—
На шацёр над яго галавою.
Ї цікава—сукі і галіны
Больш развіты з адной стараны,
Любяць сонца, відаць, і яны:
К поўдню цягнуцца
з гэтай прычыны.

Тут Міхась адпачывае
Ды любуецца барком
Хвоей і баравіком,
Што „рэкордным“ называе,
Ї, на белым сеўшы моху,
Лічыць ён баравікі—
Штук за сто! Трафей які!
Ды сілкуецца патроху,
А як прыдзе ён дадому,
Ды на сене ляжа спаць,
Лес прадставіцца маломў,
А ў ваччу грыбы стаяць.



Апавяданне О. Капыленка
Малюнкі Шахрая



# Сонечная печ

Іх трое сядзела на гарачым пяску. Пясок, нагрэты сонцам, такі гарачы, што аж у цела пячэ. Дзеці ўжо збудавалі дом і нават пасадзілі сад.

Будаваў найбольш Яшка, дапамагаў яму Тарас, а Ліна насадзіла сад навакол будынка і там цвілі ўжо кветкі.

Будынак высокі, збудавалі з каменчыкаў і палачак. Абсыпалі кругом пяском. Ліна яшчэ і плот зрабіла.

— А за плотам луг. Тут пасуцца каровы,— сказала Ліна.—Вось гэта наша карова.

Ліна дастала з скрыначкі вялікага жукарагача, прывязала яго за нітачку і пусціла на пашу.

Яшка заглянуў праз шчыліну ў сярэдзіну і заявіў:

— А як-жа мы будзем апальваць наш дом. Няма печы. Трэба разабраць дом і зрабіць печ. Холадна будзе зімою.

— Не трэба разбіраць. Хай яшчэ пастаіць трохі. Мне шкада раскідаць,—папрасіла Ліна.

— А я кажу раскідаць трэба! Як-жа ты іначай будзеш апальваць?—настойваў Яшка. А Тарас падрыхтаваўся ўжо раскідаць ўсё.

— А я прыдумала! Прыдумала! Думала-ала... Ала—ала-думала! Ліна пачала падскакваць на адной назе прыпяваючы.

— Кажы!—спыталі хлопцы разам. — Скарэй кажы!

Ліна паглядзела на хлопцаў і паказала ім угору. Тыя нічога не разумелі.

— Не разумееце? Наш дом будзем награваць сонцам. Зробім такую печ, каб награвалася ад сонца.

— Як?—спытаў Тарас.

Але Яшка ўжо зразумеў і яму гэта вельмі спадабалася. Толькі як-жа сонца будзе награваць печ? Пачалі ўсе гуртам прыдумліваць. І выршылі... Трэба дастаць вялікую трубу, паставіць яе насупраць сонца і адзін канец правесці ў дом. Тады яно будзе награваць.

Трубу можна дастаць толькі на будоўлі. На рагу будавалі дом, і дзеці пайшлі туды. Паперадзе ішоў Яшка, за ім Ліна, а потым Тарас.

Падышлі і проста на двор. Там за плотам напэўна можна знайсці што хочаш. А труба канешне знойдзецца.

Зайшлі дзеці на двор. Перад імі дзіўная машына працуе. Доўгая істужка круціцца сабе без канца ўгору на колцах. На тую істужку кладуць цагліны, і яны... ідуць угору. Так цэлы дзень катаюцца цагліны. А ўгары хтосці забірае іх. А потым з цэглы вырастаюць сцены будынка.

Зайздросна стала дзецям—цэгла катаецца, а яны не. Падкраўся ціханька Яшка да істужкі, ускочыў на яе і паехаў угору. Глянуў уніз—аж страшна стала. Высока заехаў. Пад ім стаяць малюсенькія перапалоханыя



Тарас і Ліна. Яшчэ мацней ухапіўся за істужку Яшка.

Паглядзеў яшчэ раз уніз, а там ужо і яго таварышы таксама паўзуць угору. Ліна седзячы едзе, а Тарас спалохаўся: лёг на жывот ды яшчэ і галаву схаваў, каб нічога не бачыць.

І раптам над галавою чуе Яшка:

— Глядзіце, глядзіце, якая цагліна прыехала. Ну, паложым яе!

Мулер з вялікімі вусамі падхапіў на рукі Яшку і падняў над ім поўную лапатку вапны. Ён намерваўся абмазваць Яшку вапнаю і палажыць заместа цэглы.

— Яшчэ дзве такія самыя цагліны паўзуць, кладзіце і тыя.

— Дзядзька, не трэба. Мы не цэгла, — залепятаў перапалохана Тарас.

— Тут толькі цэглу да нас падаюць. Раз падалі і вас, значыцца і вы цэгла,—прамовіў вусаты дзядзька. Рабочыя засмяяліся. Яшка апраўдваўся:

— Нас не падавалі, мы самі залезлі.

— І за гэта трэба вас абмазаць вапнаю. Ну, трымайся! — дзядзька зноў намерыўся лапаткаю.

— Дзядзя, мы шукаем трубу, — загаварыла Ліна.

— Якую трубу?

— Мы таксама пабудавалі дом. І хочам зрабіць, каб сонцам яго награваць. Для гэтага нам трэба труба. Дык мы і прыйшлі папрасіць...

— А, дык вы таксама будуеце. Ну, тады іншая справа,—засмяяўся дзядзька, а за ім усе рабочыя.

— Я, калі вырасту, буду таксама вось такія сцены мураваць,—заявіў Яшка.

— Маладзец, маладзец. А як цябе зваць?

Яшка сказаў сваё імя. Рабочыя яшчэ трохі пасмяяліся з дзяцей. Тады вусаты муляр прынёс ім трубу і сказаў:

— Мабыць, ты, Яшка, у іх брыга-

дзір. А тут я. На табе трубу, ды больш не катайся на гэтай машыне, бо скінешся, дык заб'ешся. Ну, ідзіце, канчайце ваш дом рабіць, а мы свой будзем канчаць. Зараз я вас спушчу ўніз.

Брыгадзір пасадзіў дзяцей у вялікую жалезную скрынку, што езділа на тоўстых вяроўках, і яны паехалі ўніз.

Хутка ляцела на зямлю жалезная скрынка. А ўніз іх высадзіў з скрынкі нейкі дзядзька і загадаў зараз-жа ісці дадому.

Яшка, Тарас і Ліна скоранька пабеглі рабіць сонечную печ.

*Пераклад з украінскай мовы.*

---

А. АЛЕКСАНДРОВІЧ

# КРАЙ БУДУЕМ, МОЦ ГАРТУЕМ

*Дзе ні станеш,*
*Дзе ні глянеш—*
*Вырастаюць рыштаванні.*
*Вось гатовы*
*Пабудовай*
*Новы дом шматпавярховы.*
*Ў гэтым доме—камбінат:*
*Тут і сад для дашкалят,*
*Тут і школа,*
*З імі тут*
*І тэхнічны інстытут.*
*Толькі рань зайграе зычна,*
*Як дудой, гудком фабрычным—*
*Выйдуць з хат адным заходам*
*І бацькі, і дзетвара.*
*І зліецца гул завода*
*З гулам школьнага двара.*
*Праца там і праца тут,*
*Там і тут адзін маршрут,*
*Шлях адзін, адны імкненні*
*Трох вялікіх пакаленняў:*
*Горда, смела і няспынна*
*Будаваць сваю краіну.*

* * *

*Вораг вочы хітра жмурыць,*
*Злую ён рыхтуе буру,*
*Падрыхтоўвае напад.*
*Ён штодня шалёна гэтак*
*Шчэрыць зубы на Советы,*
*На совецкі вольны лад.*
*Мы сябе спакойна чуем,*
*Край будуем,*
*Моц гартуем,*
*Бо ў мароз і ў навальніцу*
*Большэвіцкія граніцы*
*Злым набегам стан варожы*
*У расплох застаць не зможа.*
*А спрабуюць—будзем біцца.*
*(Ой, завые пан жалобай!).*
*Хай жыве спакой граніцы,*
*Наша праца і вучоба!*

# МЫ З ТАМАРАЙ...

А. БАРТО

Дзень цалюткі
Звоніць Таня.
Танін голас,
Як званок:
— Мы загадваем
Бінтамі.
Мы—ўрачэбнае
Звяно.
Мы з Тамарай
Ходзім парай,
Санітары
Мы з Тамарай.

Калі здарыцца
Часамі
Што-нібудзь
Такое з вамі,
Хоць, напрыклад,
Паваліцца, —
Дык прыходзце
К нам лячыцца.
Мы на гэта —
Люд вучоны.
Мы з Тамарай
Крыж чырвоны.
Можа вам
Зрабіць прыпаркі?
Ці лякарства
Можа даць?
Мы з Тамарай
Санітаркі —
Гэткіх толькі
Пашукаць!

Санітарам
Не шанцуе:
Ёсць і марля,
Ёсць і ёд.
Аднаго ўсяго
Бракуе —
Хоць-бы хвост
Параніў кот!

А то час
Ідзе дарма,
Сінякоў —
І тых няма!

Хоць-бы ногу
Абадралі,
Ці які-нібудзь
Ушыб!
Але дзе там?
Перасталі
Падаць
Нават малышы.

Ажно раптам —
Ёсць работа.
Санітарам
Падвязло—
Міхасёк
Зваліўся з плота
І папаў
Рукой на шкло.
Санітар!
Бяжы, ратуй —

Хлопцу руку
Забінтуй!
Але з Таняй
Слабавата:
Сэрца тахкае—
Тук-тук!
І вывальваецца
Вата
У яе чамусці
З рук...

Рукі Таніны
Аслаблі...
— Ой, Тамарачка,
Зірні-ж!
Кроў цячэ —
За капляй капля!
І... зароў
Чырвоны крыж.

— Вось, рабята,
Ёд і вата,
Вось і марля
І бінты.

Толькі я
Не вінавата—
Забінтуй,
Тамара, ты!
Цэлы дзень
Усе звоніць Таня.
Усё пра тое-ж,
Пра адно:
— Мы загадваем
Бінтамі,
Мы — ўрачэбнае
Звяно.
Мы з Тамарай
Ходзім парай,
Санітары
Мы з Тамарай.
Можа вам
Зрабіць
прыпаркі?
Даць лячэбную
Траву?
Мы з Тамарай
Санітаркі:
Тамара— лечыць,
Я... раву!

Пераклад А. Зіміонкі.





# ПАД ЗЯМЛЁЮ

Апавяданне С. Баранавых
Малюнкі А. Шахрая

УРЫЎКІ З АПОВЕСЦІ „ПАСТКА“

**У аповесці „Пастка“ расказваецца пра хлопчыка Піліпа і яго дзядзьку Цімаха. Піліп—батрачок, ён за хлеб і абя[illegible]ныя боты служыць у свайго дзядзькі-кулака.**

**Аднаго разу Піліп знайшоў у [illegible] патайны склеп. Ён вельмі зацікавіўся— што ў тым склепе? Але залезці туды не асмеліўся. Каб было смялей, дагаварыўся аб гэтым з комунараўскім піонерам Юзікам і чакаў яго ў вызначаны час у садку.**

Ужо змерклася, а дзядзькі Цімаха не было з фэсту. Я вельмі клапаціўся, хаця-б ён не наехаў пакуль мы паглядзім.

А з Юзікам мы ўмовіліся гэтак: ён прыдзе на цямочку ў садок, а я яго ўжо буду чакаць.

Калі казаў я Юзіку пра ўсё, ён аж мяняўся ў твары. Больш за мяне неяк ні то спалохаўся, ні то хто яго ведае, што з ім. Потым ён сказаў мне:

— Гэта справа канечна... Чаго-ж гэта хто так сабе будзе лазіць у ночы па скляпох?

Цётка ўжо і агонь запаліла, а Юзіка няма. Я сяджу пад вішняю (не пад тою, дзе склеп) і чакаю Юзіка. Ён павінен ісці цераз выган. Мне проста надакучыла яго чакаць.

— Ну, і дзе-ж ён дзеўся?—ах-ах...

— А мо' збаяўся ісці адзін цераз грэблю Тутака-ж, казалі, ваўкі нават праходзяць часамі.

Кошка-рыска прабегла каля мяне ды застанавілася, пазіраючы, чаго я сяджу.

— Каці-каці-каці... — пакацікаў я, але яна як пачула голас—пайшла пад азярод ад мяне.

— Хай ідзе... Там у гэтых кулёх пэўна ёсць мышы...—думаю я, пазіраючы, куды пайшла кошка-рыска...

— Не... Я больш не буду яго чакаць!— вырашаю і ўздымаюся на ногі. — Я адчыню і палезу адзін. От! Хай ведае, што я і не вельмі баюся.

Асцярожна падыходжу пад тую вішню і абмацваю ў густой траве кальцо (трава тут большая як дзе!).

Цяжкавата, але я патом з усёю сілаю

ўздзіраю дзверцы. Але што-ж мне рабіць? Хто-ж будзе трымаць дзверцы? Яны-ж зачыняцца, калі падлезу пад іх? Цэлы момант думаю, што рабіць і ўрэшце скеміў: расняразваюся і папружкаю працягваю праз кальцо. Тады зноў прывязаў іх папружкаю за вішню.

— Цяпер не адкінуцца.

Нешта, было, шаснула, калі я нагнуўся ды глядзеў у чорную яму. Я страпянуўся, узняў галаву, натапырыў слых, і—Юзіка не было відаць.

— Хай цяпер сабе і не ідзе...—падумаў я сам сабе ды пачаў мацаць, каб як туды лезці.

На цэлую нагу (як дастаць зверху) стаяла драбіна. Я асцярожна ступіў на драбіну і— раз, два, тры, пяць, сем... злез аж на дно на падлогу.

Зрабілася так неяк, што ў мяне аніякага страху. Стаяў каля драбіны і глянуў уверх— кавалачак неба. І зоры, здаецца, ярчэй на ім мільгаюць. Цэлую хвіліну прастаяў: усё адно як ніколі зорак тых не бачыў. А потым апамятаўся—пачаў хутчэй аглядаць с[illegible].

Вобмацкам іду каля сцяны, а яна каменная, шурпатая.

— Нешта! Нейкая скрыня ці што?

Мацаю рукою і не ведаю, што гэта. Тады толькі успомніў, што ў мяне ў кішэні, яшчэ ад начлегу, запалкі.

Я, спяшаючыся, дастаў карабок з кішэні, дастаў запалку, і ніяк не магу запаліць: ці то рукі ў мяне дрыжаць, ці то запалка адсырэла? Узяў другую і — шэрг-шэрг — запаліў.

Агонь рынуўся мне ў самыя вочы і я перш быў нічога не ўбачыў, а потым паволі пачаў угледацца і дзіву даўся.

Каля сцен стаяць тры вялікія скрыні, а ў кутку вялікая шафа. Я падышоў да аднэй скрыні — парожняя. Але відаць, што ў ёй было жыта: калівы жытнія засталіся на дне. Падышоў да другой—парожняя...

Мая запалка стухла і я запаліў другую. Падыходжу да трэцяй, што з другога боку ад дзвярэй, а там палавіна скрыні гароху. Тады я падышоў да шафы... Яна зачынена і я думаў, што замкнёна. Я ўзяў за дзверы, дык яны і адчыніліся. За самай шафаю, як адчыняў я—нешта забарабаніла—ту-ту-ту... Я зразумеў: гэта-ж пацук. І ў мяне зноў не было аніякага страху.

А калі зусім шафу адчыніў, убачыў і аслупянеў...

Адкуль дзядзька Цімох набраў [illegible]улькі вінтовак!? Поўная шафа адных він[illegible]вак... А знізу жалезныя бутэлькі...

— Нашто яны яму?—прабегла думка, а за ёю другая:—мусіць, каб ваяваць? Дзядзька Цімох хоча вайны... Ён, як тыя буржуі, што пра іх казаў Юзік... Ой, ой!..

Запалка стухла і я пайшоў да дзвярэй. Мяне цяпер апанаваў жах ад гэтых вінтовак. Яны такія сур'ёзныя, маўклівыя і здаецца, каб да іх дакрануўся—стрэляць. І стрэляць усе за адзін раз.

— Ах, ах! Што сабе думаю дзядзька! Я не скажу Юзіку, не, не! Юзік не сцерпіць і каму-небудзь скажа, а дзядзька тады заб'е мяне насмерць! Што сабе думае дзядзька, а-я-яй!

Падышоў да драбіны і ўзняўся, каб хутчэй, хутчэй вылезці наверх! Неяк знячэўку, калі лез, узняў галаву і ўбачыў: на куркішках быў каля дзвярэй Казік*). Ён мяне, здаецца, не бачыў: усё прыглядаўся і нешта трымаў у руцэ.

— Не зачыняй!.. — крыкнуў я яму і мой голас згубіўся, рассыпаўся па склепе. (Я не ведаю, чаму ў мяне быў такі ціхі голас цяпер). Я рынуўся да верху па драбіне і яшчэ раз крыкнуў:

— Не зачыняй...

... Нешта кінулася на галаву і так моцна, што я сцяў зубы. А потым цёмна, цёмна зрабілася. Здаецца, зачыніліся земляныя дзверцы...

---

... Я расплюшчыў вочы і аж сумеўся: перада мною стаіць Мішына сястра—Зося. Яна пазірае на мяне, а на вуснах у яе малая ўсмешка.

*) Казік—сын Цімоха.

— Чаму вы,—тут?.. — шавялю я губамі і мой голас вельмі ціхі... Чаму такі ціхі ў мяне голас? Я пазіраю далей вачыма і бачу: гэта-ж я на ложку ў нейкай хаце.

А Зося да мяне:

— Ты прачнуўся... Табе баліць галава?

— А дзе-ж я?—быстра пазіраю на Зосю.

— Н бойся,—кажа да мяне Зося.—Ты— у н

— вас?..

— Табе не можна гаварыць. Ты хворы. Фельчар сказаў, каб ты не варушыў галавою.

Я цяпер толькі успомніў пра сваю галаву. Я адчуў яе і зразумеў: мая галава ўся абвязана марляй.

— Я хачу піць...—папрасіў я ў Зосі вады.



Яна і не адыходзіла ад ложка, а з століка ўзяла шклянку з вадой.

— Вот як!.. Тутака і вада бліака...— прайшло праз мае думкі.

Зося падлажыла пад маю патыліцу руку і я напіўся вады. У маім роце ад вады аж павесялела.

— Дзе-ж Юзік, або—Міша? — запытаў я ў Зосі.

А яна паправіла марлю на маёй галаве і тады ўжо сказала:

— Яны былі тут, як ты спаў. І Юзік быў, і Міша і яшчэ былі піонеры. Яны прыдуць... Ты ўвесь быў як у агні. У цябе разбіта галава і шмат крыві выцекла. Увесь гарох быў мокры ад крыві, калі нашы знайшлі цябе. Ты гаварыў няма-ведама што і кідаўся на ложку. У цябе была гарачка. Вось усё ты гаварыў пра звера. І казаў, што вы пойдзеце з Юзікам па суніцы. Табе-ж можа баліць галава, калі ты гаворыш?

— Не...—адказаў я, — мне толькі ў роце сохне. Калі-ж я вылез з склепа? Як гэта я ўцёк ад Цімаха?

Зося ўсмешку рассыпала па ўсім твары, коўдру падкладае пад мой бок і кажа:

— Каб не Юзік, ты-б і не ўцёк. Цімох цябе шукаў у склепе і не знайшоў. Ён думаў, што ты ўцёк з склепа.

— А дзе-ж Цімох? — перапыняю нашу гаворку,—што ён робіць?

Зося ўстрапянулася ад сваіх думак, глядзіць на мой твар ды кажа далей:

— Дык вось-жа... Ты быў увесь у гаросе і ён цябе не знайшоў. А Юзік бачыў, як ён шукаў цябе і нам прыбег сказаў. Нашы хлопцы пайшлі і стрэлі Цімаха на грэблі. Ён вінтоўкі і бомбы, што былі ў шафе, вёз на возе. Ён думаў, што ты ўцёк з склепа і раскажаш усім пра вінтоўкі. Ён хацеў іх схаваць. А нашы комунараўцы яго і злавілі.

У мяне аж заблішчалі вочы ад радасці.



— Цётка Зося, Цімох мне і не радня і не дзядзька. Я не хачу ботаў яго нават і бачыць! Я, цётка Зося — не, не хачу-у...

А яна больш яшчэ смяецца ды кажа:

— Які ты... Канечна не радня! Тваёю раднею нашы піонеры — Юзік, Міша і ўвесь атрад. А Цімох — гэта-ж пастка для цябе. Я-ж кажу: ён, хацеў, к[illegible]ты яму дарам працаваў і каб не веда[illegible]а гэта. І ты трапіў у гэту пастку. Ен-жа — кулак, бандыт. У яго жылі бандыты — ён сам прызнаўся. І віноўкі пакінулі яму. Міліцыя яго забрала і ўсіх іх забралі.

## ВЫПІСАЛІ 65 ЭКЗЕМПЛЯРАЎ ЧАСОПІСІ

Вучні Крупскай узорнай ШКМ выпісалі на май месяц 65 экз. часопісі „Іскры Ільіча“.

— „Іскры Ільіча“ — Цікавая і карысная ў нашай школьнай рабоце часопісь, — га[illegible]рыць групавод 1 „А“ групы т. Усціновіч.

У групе тав. Усціновіч кожны месяц перавыконваюцца вызначаныя лічбы па выпісцы друку.

Усе вучні на летні адпачынак павінны выпісаць „Іскры Ільіча“.

ГАЛУБІЦКІ.




Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ

ЦАНА 30 КАП.



# ПРЫГОДЫ З НАСТАЎНІКАМ-ФАШЫСТАМ.

Малюнкі М. Малевіча.

*У школах Германії і другіх буржуазных краін настаўнікі-фашысты здзекуюцца з дзяцей рабочых: ставяць іх на калені, моцна б'юць дубовымі лінейкамі.*




1. Без „лінейкі“ і „каленкаў“ не можа абыходзіцца настаўнік-фашыст.



2. Не вытрымаў піонер Ганс здзекаў над сабою і сваімі таварышамі...



3. Настаўнік выцягнуў з-за парты сваю чарговую ахвяру.



4. Але... цэлы паток чарніла мігам спыніў яго брудную работу.



5. Бяжыць збянтэжаны настаўнік-фашыст пад кран.



6. Ды дзе там адмыеш,—толькі горш размазаў чарніла.



7. Бачыць фашыст-паліцэйскі, дзівіцца: негр, самы сапраўдны негр на яго вуліцы з'явіўся!



8. — Жыць неграм у Германіі забаронена!—зароў паліцэйскі, схапіў настаўніка-фашыста за каўнер і пацягнуў у турму.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 745. 7635 экз. Мінгарліт № 2896